

магілёўскі
# Выбар

№ 14
Жнівень
2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ – 8 КАНДЫДАТАЎ АД ПАРТЫІ БНФ




На з’ездзе партыі БНФ, які адбыўся 4 жніўня ў Мінску, у шэрагу іншых было вылучана 8 кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па выбарчых акругах Магілёўскай вобласці.

У прыватнасці, кандыдатам у дэпутаты па Быхаўскай выбарчай акрузе № 81 вылучаны Сяргей Антонаў, па Крычаўскай выбарчай акрузе № 83 – Валерый Каранкевіч, які раней зарэгістраваў у гэтай жа акруге ініцыятыўную групу па збору подпісаў у падтрымку свайго вылучэння. Спадар Каранкевіч таксама актыўна ўдзельнічае ў дзейнасці кампаніі “Гавары праўду” і карыстаецца яе падтрымкай.

Сябры партыі БНФ вылучаны кандыдатамі і па трох акругах горада Магілёва: па Магілёўскай-Ленінскай акрузе № 84 плануе балатавацца старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі партыі БНФ Сяргей Брыцікаў, у Магілёўскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе № 85 вылучаецца сябар Сойму партыі Віталь Макаранка, у Магілёўскай-Прамысловай выбарчай акрузе № 87 плануе быць кандыдатам сябар партыі БНФ Аляксандр Страх.

Таксама кандыдаты ад партыі БНФ будуць: у Магілёўскай сельскай выбарчай акрузе № 88 – Тамара Маскалёва, у Асіповіцкай выбарчай акрузе № 89 – Альберт Яўменаў, у Шклоўскай выбарчай акрузе № 90 – намеснік старшыні партыі БНФ, былы кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Рыгор Кастусёў.

Усе магілёўскія вылучэнцы пагадзіліся выканаць партыйнае рашэнне аб адначасовым зняцці кандыдатаў ад партыі БНФ, калі яно будзе прынятае на другой частцы з’езда, якая пройдзе 15 верасня. Падставай для такога рашэння можа паслужыць не вызваленне беларускіх палітвязняў і неўключэнне прадстаўнікоў БНФ у склад участковых выбарчых камісій і нестварэнне спрыяльных умоў для сапраўды дэмакратычных і свабодных выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Усяго на з’ездзе партыі БНФ вылучана 38 кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

*Барыс Вырвіч*

## КАМУ ПЕРАШКАДЖАЛА ГІСТОРЫЯ ЧЭРЫКАВА?

Днямі па распараджэнні старшыні Чэрыкаўскага райвыканкама Мікалая Кадаценкі разбурылі старажытную будыніну. Яна сама па сабе гісторыя раёна. Тут у свой час месціліся і кантора гаргазу, і машыналічыльная станцыя, і рэдакцыя раённай газеты, і друкарня. Апошнім гаспадаром будыніны з метровымі сценамі быў народны суд.

### Плакала, калі разбуралі часцінку Чэрыкаўшчыны

Пры гэтым у старшыні не стрfalsпянулася сэрца нават з таго, што калісьці ў гэтым самым будынку месціўся і райвыканкам. Прастаяла гэтая пабудова, як падаюць архівы, ажно з 1789 года. Толькі ўявіце сабе, што яна перажыла разам з чэрыкаўлянамі розных пакаленняў.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## МАГІЛЁЎ: НЕ ДАСЦЁ САЦЫЯЛЬНАГА МАЛАКА — НЕ ПОЙДЗЕМ НА ВЫБАРЫ

93 магілёўцы накіравалі калектыўны зварот прэзідэнту Беларусі, старшыні Цэнтрвыбаркаму і старшыні Магілёўскага аблвыканкаму.

У сваім лісце яны паведамляюць, што будуць байкатаваць парламенцкія выбары праз адсутнасць на прылаўках крамаў сацыяльнага малака.

Паводле падпісантаў, іх не задавальняе малако з дабаўкамі, якое прадаецца жыхарам горада па завышаных коштах. Яны просяць, каб у крамы зноўку пачало паступаць звычайнае малако.

Трэба адзначыць, што ўсе падпісанты пражываюць на тэрыторыі Магілёўскай-Ленінскай выбарчай акругі №84



# КАМУ ПЕРАШКАДЖАЛА ГІСТОРЫЯ ЧЭРЫКАВА?

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

І, як лічаць многія з гараджан, яшчэ прастаяла б не адзін дзясятак, а то і сотню гадоў. Па меншай меры, гэты помнік архітэктуры мог бы пры пэўных затратах выглядаць нашмат высакароднеи і прыгажэй, чым сённяшнія хуткаспелыя новабудоўлі.

У гэтым перакананы і жыхар гэтага горада Сямён Панізоўцаў.

— Зразумела, што ў нашага Мікалая Міхайлавіча галава пра гісторыю Чэрыкава не балела і не баліць, — кажа ён. — У яго жыцці нічога не звязана з гэтым населеным пунктам. А як быць тым людзям, якія пражылі тут усё сваё жыццё, выгадавалі дзяцей, уклалі ў здабытак чэрыкаўшчыны сваю працу і частку сябе? Я размаўляў з адной знаёмай. Яна сказала, што плакала, калі разбуралі гэтую часцінку Чэрыкава, бо некалі яна працавала пад дахам гэтай старажытнасці адзінаццаць год.

Вось каля возера нашага, па завулку Ракасоўскага, будуецца зараз дом сямейнага тыпу для дзяцей-сірот. Чаму б не выкарыстаць для гэтай мэты ўжо разбураную будыніну?

Наколькі мне вядома, каля сотні чалавек сталага ўзросту ў нашым раёне чакаюць чаргі для ўладкавання ў дом састарэлых. Сёння свабодных месцаў у дамах такога тыпу няма. Не пасппяваюць будаваць, ды і няма за што. Дык прыладуйце той няшчасны дом!..

Была яшчэ прапанова ў мясцовай грамады аддаць будынак пад раённы музей. Яго супрацоўнікі хадзілі з візітам наконт гэтага да намесніцы старшыні райвыканкама Анжэлы Новікавай і пачулі, што старшыня сваіх рашэнняў не мяняе...



*Тут быў дом...*

## Людзі знайшлі б сродкі на добрую справу

Праблема захоўвання старажытных помнікаў архітэктуры і культуры на Магілёўшчыне стаіць востра. Пра гэта нам давёў старшыня абласнога савета Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Краўчанка.

— Прычына такога стаўлення да помнікаў і артэфактаў архітэктуры тлумачыцца, на жаль, зусім проста, — зазначыў ён. — Многія з кіраўнікоў нашых гарадоў-раёнаў служаць не справе ў шырокім сэнсе слова, а таму, што яны самі называюць “вертыкаллю”. Для таго, каб здабыць сродкі на рэстаўрацыю і рэканструкцыю, трэба добра папрацаваць, патрацiць шмат нерваў, сапсаваць адносіны з пэўнымі інстанцыямі. Значна лягчэй разбурыць тое, што дае трэшчыны, і заняцца новым будаўніцтвам. Яно ў нас больш прэстыжнае і на яго лягчэй здабыць дазвол і сродкі. Ды і “пракруціць” іх, як гаворыцца ў народзе, таксама лягчэй. Вось найлепшая ілюстрацыя — мінулагодняя “Дажынкі”, на якія нядаўна заведзена не адна крымінальная справа. Не хачу прадракаць, але маё сэрца нешта хвалюецца і за горацкае свята рэспубліканскага ўраджаю і дасягненняў сельскай гаспадаркі.

Аддавалі б людзям тое, што не могуць падняць самі. Яны, я ўпэўнены, знайшлі б сродкі на добрую справу. Магілёўская Ратуша найлепшы тут прыклад: яе аднаўленне пачалося з прапаноў грамадскасці Магілёва, з грошай, сабраных на адмысловых суботніках. Гэтая рэстаўрацыя вярнула гораду не толькі яго матэрыяльны знак, але і пачуццё годнасці. Так што старыя будынкі — гэта не проста будынкі. Яны, выбачайце за высакапарнасць, мост паміж былым, сённяшнім і будучым.

***Віктар ВОЙТ***

беражы лес – чытай кнігі на
kamunikat.org
kamunikat.org
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка
10 000 КНІГАЎ, ГАЗЭТАЎ І ЧАСОПІСАЎ • РАЗМОВЫ ПРА КУЛЬТУРУ І ЛІТАРАТУРНЫЯ РАДЫЁПЕРАДАЧЫ • НАВІНКІ ВЫДАВЕЦКАГА РЫНКУ

# НЕ ПРИВЛЕКЛИ НИ ОДНОГО ДОЛЛАРА



Не всегда можно доверять государственной статистике, но другой у нас просто нет. Что ж, попробуем составить представление о реалиях жизни, пользуясь официальными цифрами и фактами.

Согласно статистическим данным, жить в Могилёвской области хорошо, а местами так и вовсе замечательно. Возьмём самое насущное — заработную плату. Оказывается, по результатам первого полугодия Могилёвщина по уровню заработной платы опередила Витебскую, Гродненскую и Брестскую области. В июне средняя зарплата жителей Могилёвской области составила 3 млн. 450 тыс. руб. (около $414 в эквиваленте). Разве не здорово?

Но эта средняя зарплата вызывает в памяти один старый анекдот. На заводе в обеденный перерыв рабочий ест булочку, а директор — курицу. А в среднем у каждого выходит полбулки и полкурицы. Смех смехом, но точно так получается и в нашем случае. В среднем по области насчитали 3 млн. 450 тыс., а применительно к конкретным регионам картина резко меняется. Здесь встречаются организации со средним заработком менее $200 долларов. Есть такая и в Климовичском районе.

Глава области Пётр Рудник настойчиво требует «выйти как минимум на $500 средней заработной платы в декабре 2012 года». До декабря осталось несколько месяцев, но губернатор, похоже, живёт совсем по другому календарю. К тому же мы хорошо помним его прошлогоднее обещание. Тогда, в начале 2011 года, Пётр Рудник категорически заявил, что в декабре 2011 года средний заработок жителей области должен равняться $600. За язык его, как говорится, никто не тянул и не вынуждал утверждать следующее: «И я могу твёрдо заверить депутатов областного Совета, что облисполком не просто стремится к достижению этой цели, но и чётко представляет, как и за счёт чего воплотить задуманное в жизнь». Как известно, 600 долларов «воплотить» не вышло, сейчас пробуют вытянуть хотя бы на 500-долларовую планку.

Ясно, что если бы не предстоящие осенью парламентские выборы, власти не замахивались бы и на такое. Они лучше нас знают состояние экономики, возможности которой практически уже исчерпаны. Зарубежные инвесторы, вопреки уверениям чиновников и государственной пропаганде, просто опасаются вкладывать сюда деньги. Привлечение иностранных инвестиций в Могилёвской области из года в год оставляет желать лучшего. В нынешнем году ряд районов – Климовичи, Белыничи, Глуск, Дрибин, Хотимск - вообще не привлекли ни одного доллара иностранных инвестиций. И это наилучшим образом опровергает мифы об эффективности белорусской экономической модели.

Например, в Климовичах уже длительное время пробуют реализовать проект по производству газосиликатных блоков. Напомним, что о предполагаемом строительстве в Климовичском районе силикатного завода госСМИ стали заявлять ещё несколько лет назад. Так в декабре 2007 года председатель райисполкома Виталий Гришанов сообщил в интервью: «В рамках программы развития малых городов в Климовичах начнётся строительство завода по производству газосиликатных блоков. Количество работающих на предприятии составит 200-250 человек». Но ни завода, ни рабочих мест климовчане не получили. Все эти годы райисполком безуспешно ищет инвесторов, предлагая им вложить 10 миллионов долларов в реализацию проекта. Но если они не захотели сделать это пять лет назад, то тем более не пожелают сделать это сегодня. После выборов 2010 года деловая и политическая репутация страны безнадёжно испорчена. Вкладывать не то что миллионы, но даже один доллар, становится для инвесторов чересчур рискованным делом.

***Александр ВЛАД***

## 35 магілёўцаў просяць забараніць уезд у Беларусь каралеве Вялікабрытаніі і Папе Рымскаму

Абураныя тым, што прэзідэнту Аляксандру Лукашэнка і ягонаму сыну Мікалаю было адмоўлена ў атрыманні віз на летнюю алімпіяду ў Лондане, якая пачалася 27 ліпеня, магілёўцы патрабуюць захадаў у адказ.

З адпаведным лістом яны звярнуліся да старшыні алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Ініцыятарам звароту выступіў грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, які шакаваны адбыўшайся знявагай да вышэйшых дзяржаўных чыноў Беларусі і, як след, да простага беларускага народа.

У сваім лісце жыхары Магілёва просяць забараніць уезд каралеве Вялікабрытаніі Лізавеце II і Папе Рымскаму на чэмпіянат свету па хакею, які мусіць адбыцца ў Беларусі ў 2014 годзе.

***Вітольд НЯЎРЫДА, "Наш Магілёў"***

# СІТУАЦЫЯ Ў ЖКГ БЕЛАРУСІ, ПРАПАНОВЫ ПА РАЗВІЦЦЮ І РЭФАРМАВАННЮ ЖКГ



*Рыгор Кастусёў*

Ва ўсе часы існавання Савецкай улады дзяржава пакідала за сабой функцыю “бацькоўскага клопату” аб кожным чалавеку ў забяспячэнні яго жыллём. Людзі старэйшага пакалення памятаюць славутую праграму часоў Савецкага Саюза “Кожнай савецкай сям’і да 2000 года асобную кватэру”, або яшчэ ранейшую падобную праграму, якія так і засталіся нявыкананымі.

Падобная тэндэнцыя была захаваная і ў незалежнай Беларусі. Да 2003 года ў краіне дзейнічала Нацыянальная жыллёвая праграма. Але яна была прызнана не адпавядаючай эканамічным рэаліям таго часу, і на змену ёй была прынята Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №943 ад 14 ліпеня 2003 году “Аб Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года”.

Асноўная мэта дадзенай Канцэпцыі – стварэнне эканамічных, прававых , арганізацыйных умоваў для безстратнага функцыянаваня, далейшага развіцця і рэфармавання ЖКГ , скіраваных на павышэнне эфектыўнасці, надзейнасці функцыянавання сістэм жыццязабяспячэння насельніцтва, паляпшэння якасці прадастаўляемых паслуг з аднačасовым зніжэннем страт на іх вытворчасць, забяспячэнне сацыяльнай абароны насельніцтва.

Рэалізаваць Канцэпцыю меркавалась у тры этапы.

Ужо на першым этапе (2004 – 2006 гады) планавалась выкананне шэрагу вельмі важных для развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі мерапрыемстваў. У тым ліку:

- стварэнне ўмоў для фармавання канкурэнцыі па аказанню жыллёва-камунальных паслуг ( стварэнне прыватных і прыватызацыя існуючых прадпрыемстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, але пры ўмове, што кантрольны пакет акцый такіх прадпрыемстваў будзе знаходзіцца ў руках дзяржавы).
- ажыццяўленне пераходу на фармаванне дагаварных адносін на конкурснай аснове ў сферы жыллёва-камунальнага абслугоўвання.
- сфармаванне ўмоваў для стварэння новых арганізацыйных форм па эксплуатацыі жыллёвага фонду.
- актывізацыя работы па перадачы ў прыватную ўласнасць аб’ектаў лазневай і гасцінічнай гаспадаркі з завяршэннем гэтай работы на другім этапе выканання Канцэпцыі.

На другім этапе (2006-2010 гады) намячалась:

- давесці долю жыллёвага фонду абслугоўваемага на конкурснай аснове да 60% шляхам стварэння прыватных кампаній.
- завяршыць работу па перадачы ў прыватную маёмасць аб’ектаў лазневай і гасцінічнай гаспадаркі, і т.д.

На трэцім этапе мяркуецца:

- давесці долю жыллёвага фонду абслугоўваемага на конкурснай аснове да 100% шляхам стварэння прыватных арганізацый.
- завяршыць пераход на поўную аплату насельніцтвам затрат на ўтрыманне і рамонт жыллёвых памяшканняў.
- завяршыць, у асноўным, работы па мадэрнізацыі і цеплавой рэабілітацыі буйнапанэльных жылых дамоў першых масавых серый.

У мэтах далейшага развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі, павышэння якасці прадстаўляемых паслуг, 7 чэрвеня 2006 года Урадам Рэспублікі Беларусь была прынята Пастанова за №720 “Аб Праграме развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на 2006-2010 гады”.

Прыярытэтнымі накірункамі рэфармавання і развіцця жыллёвай гаспадаркі краіны на 2006-2010 гады згодна Праграмы сталі:

- павышэнне узроўню пакрыцця тарыфамі страт на прадастаўленне паслуг для насельніцтва шляхам збліжэння тарыфаў з сабекоштам па рэгулюемых паслугах згодна з дынамікай росту прыбыткаў насельніцтва, а таксама павелічэнне долі паслуг, аказваемых на дагаварной платнай аснове;

*(Пачатак. Працяг на стар.5)*

# СІТУАЦЫЯ Ў ЖКГ БЕЛАРУСІ, ПРАПАНОВЫ ПА РАЗВІЦЦЮ І РЭФАРМАВАННЮ ЖКГ

*(Працяг. Пачат. на стар. 4)*

- дэманапалізацыя жыллёвай гаспадаркі шляхам падзялення функцый упраўлення і абслугоўвання жыллёвага фонду, стварэнне канкурэнцыі паміж арганізацыямі;

- рэфармаванне сістэмы фінансавання бягучага і капітальнага рамонту жыллёвага фонду;

- цеплавая мадэрнізацыя жыллёвага фонду;

Пры зацвярджэнні дадзенай праграмы ў Урада краіны існавала разуменне сітуацыі, што нягледзечы на арганізацыйныя асаблівасці ЖКГ, якія заключаюцца ў агульнай інфраструктуры, пры якой уласнік жылля не мае магчымасці самастойна, аднаасобна выбраць пастаўшчыка паслугаў, існуюць і шэраг суб'ектыўных прычынаў, якія стрымліваюць рэфармаванне і развіццё сістэмы жыллёва-камунальнай гаспадаркі:

- манапалізм камунальных арганізацый, адсутнасць канкурэнцыі паміж вытворцамі ў сферы ЖКГ;

- нізкі ўзровень грамадзянска-прававых механізмаў кантролю і адказнасці за колькасць і якасць аказваемых паслугаў не дазваляюць эфектыўна абараняць інтарэсы спажыўцоў;

- у краіне не развіваецца працэс перадачы жылых дамоў ва ўпраўленне таварыствам уласнікаў, да гэтай пары не адпрацаваны механізмы эканамічнай матывацыі, дазваляючыя ўласнікам праз створаныя імі аб'яднанні цалкам рэалізоўваць законныя правы па ўпраўленню нерухомасцю і браць на сябе адказнасць за яго эксплуатацыю і захаванасць;

- існуе праблема высокай фізічнай і маральнай амартызацыі жаллёва-камунальнай інфраструктуры, пры гэтым сельскі жылы фонд па добраўпарадкаванасці значна саступае гарадскому: вадаправодам і каналізацыяй абсталявана толькі трэцяя частка сельскага жылля, а душам або ваннай і таго менш;




Для забяспячэння паспяховага выканання дадзенай Праграмы былі выдзелены фінансавых сродкаў у памеры 12 826,2 млрд. руб.

Крыніцамі фінансавання мерапрыемстваў Праграмы з'яўляліся рэспубліканскій і мясцовыя бюджэты, інавацыйныя фонды, сродкі арганізацый ЖКГ, уключаючы пазыкі, іншыя рэсурсы. З мэтай рашэння пытання па прыцягненню фінансавых рэсурсаў прадугледжваліся захады па зніжэнню рызыкі інвеставання праз стварэнне адпавядаючай заканадаўчай базы. Для гэтага планавалася падрыхтаваць і прыняць нарматыўныя прававыя акты, якія бы прадугледжвалі :

- унясенне зменаў і дапаўненяў у Інвестыцыйны кодэкс, якія тычацца перадачы і стварэння аб'ектаў інфраструктуры ЖКГ на аснове канцэсійных дагавароў;

- унясення зменаў і дапаўненняў у Жыллёвы кодэкс, якія тычацца стварэння рынaчных адносін у жыллёвай сферы і рэгламентацыі прадастаўлення жыллёва-камунальных паслуг;

- зацвярджэнне формы тыпавой дамовы паміж уласнікам жыллёвага фонду і ўпаўнаважанай асобай, прызначанай мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, на ўпраўленне нерухомасцю сумеснага домаўладання, тэхнічнае абслугоўванне і рамонт агульнай маёмасці жылога дома, прадастаўленне камунальных паслугаў;

- зацвярджэнне формы тыпавой дамовы паміж упаўнаважанай асобай па кіраванню нерухомасцю (арганізацыяй грамадзян забудоўшчыкаў, таварыствам уласнікаў) і падраднай арганізацыяй (пераможцам конкурсу) на тэхнічнае абслугоўванне і рамонт агульнай маёмасці сумеснага домаўладання і прадастаўлення камунальных паслуг;

- зацвярджэнне палажэння аб правядзенні капітальнага рамонту сумеснага домаўладання з прыцягненнем заёмных сродкаў, у якім будуць вызначаны парадак прыцягнення заёмных сродкаў на правядзенне капітальнага рамонту, парадак выдзялення бюджэтных асігнаванняў на правядзенне работ па капітальнаму рамонту жыллёвага фонду пры яго выкананні за кошт заёмных сродкаў.

Асноўнай мэтай Праграмы згодна Пастановы з'яўлялася

*(Працяг на стар. 6)*

# СІТУАЦЫЯ Ў ЖКГ БЕЛАРУСІ, ПРАПАНОВЫ ПА РАЗВІЦЦЮ І РЭФАРМАВАННЮ ЖКГ

*(Працяг. Пачат. на стар. 4-5)*

павышэнне эфектыўнасці, надзейнасці функцыянавання жыллёва-камунальных сістэм жыццязабяспячэння, якасці прадастаўляемых паслуг і забяспячэння эканамічных, прававых і арганізацыйных умоў для тэхналагічнай мадэрнізацыі, безстратнага функцыянавання і далейшага рэфармавання галіны.

Для дасягнення пастаўленай мэты ў Праграме вызначаны канкрэтныя задачы і растаўлены прыярытэты па развіцці жыллёва-камунальнай гаспадаркі, адпавядаючыя 2-му этапу Канцэпцыі. Неабходнасць прыняцця Праграмы было запатрабавана тым, што за папярэднюю пяцігодку ў камунальнай гаспадарцы распачаліся некіруемыя працэсы.

У 2000-2005 гадах рост тарыфаў для насельніцтва на жыллёва-камунальныя паслугі яўна апярэджваў агульны паказчык інфляцыі. Пры росце спажывецкіх коштаў за 2000-2005 гады ў 6,1 разы, тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, уключаючы электра- і газазабяспячэнне, павялічыліся у 50,7 разоў. Найбольш хуткімі тэмпамі раслі тарыфы на ацяпленне, тэхнічнае абслугоўванне жылфонда, электразабяспячэнне.

У выніку ўзровень пакрыцця плацяжамі насельніцтва страт на прадастаўленыя жыллёва-камунальныя паслугі, акрамя электра- і газазабяспячэння, для стандартнай двухпакаёўкі, узрос з 12% у 2000 годзе да 42,4% у 2005.

Ад дня прыняцця Пастановы № 943 мінула ўжо дзевяць год і болей шасці год ад прыняцця Пастановы № 720. Але за гэты час сітуацыя ў камунальнай гаспадарцы краіны яшчэ больш пагоршылась.

Найбольшую трывогу вызывае стан жылых дамоў пабудаваных у 60-х гадах, гэтак званых “хрушчовак”. Праектны тэрмін эксплуатацыі некаторых з іх закончыўся, але да гэтай пары не распрацавана канцэпцыя па вырашэнню дадзенай праблемы. Адставанне па капітальнаму рамонту жыллёвага фонду пры сучасных тэмпах складае больш 200 год.

Крытычнай мяжы па тэрмінах эксплуатацыі дасягнулі шматлікія ўчасткі цепласетак і вадаправодаў. На некаторых участках цепласетак страты цяпла дасягаюць да 30-50%, асабліва на аб’ектах у сельскай мясцовасці, што адышлі да камунальнікаў ад збанкрутаваных калгасаў і саўгасаў. Стан жа вадаправодаў на сяле, дзе нярэдка ўсялякія разумныя падыходы па іх эксплуатацыі проста адсутнічаюць, можа прывесці да атручванняў і захворванняў насельніцтва. І гэта пры тым, што на рэканструкцыю аб’ектаў былі выдзеленыя і выдзяляюцца велізарныя сродкі.

Так, Дзяржаўнай праграмай па водазабяспячэнню і водаадвядзенню “Чыстая вада” на 2006-2010 гады прадугледжвалася развіццё сісітэм водазабяспячэння і водаадвядзення, значнае паляпшэнне якасці пітной вады і ачысткі сцёкавых вод ва ўсіх населеных пунктах краіны. На выкананне гэтай праграмы з розных крыніц фінансавання было выдзелена 625,8 млрд.руб., у тым ліку з дзяржбюджэту 407, 5 млрд.руб. Акрамя таго для будаўніцтва 9 ачысных збудаванняў на тэрыторыі краіны ў 2008-2010 гадах, Сусветным банкам было выдзелена Ураду Беларусі 60 млн. дол. Але на працягу 2006-2010 гадоў якасць пітной вады ў бальшыні населеных пунктаў пагоршылась. Нават былы старшыня Камітэту дзяржаўнага кантролю Зянон Ломаць, у сваім выступе на паседжанні Прэзідыума Савету Міністраў, якое адбылось 10 лістапада 2009 года, адзначыў факты пагаршэння якасці пітной вады ў некаторых рэгіёнах краіны.

З мэтай выканання мерапрыемстваў па павышэнню энэргаэфектыўнасці і павышэнню энэргабяспекі краіны Рэспубліканскай праграмай мадэрнізацыі сістэмы энэргазабяспячэння было прадугледжана на 2006-2010 гады фінансаванне больш 5 млрд. долараў. Але і гэтая праграма была праваленая.

*(Працяг на стар. 7)*



# СІТУАЦЫЯ Ў ЖКГ БЕЛАРУСІ, ПРАПАНОВЫ ПА РАЗВІЦЦЮ І РЭФАРМАВАННЮ ЖКГ

*(Працяг. Пачат. на стар. 4-6)*

Нават Пастанова Савета Міністраў па выкарыстанню мясцовых відаў палівна-энэргетычных рэсурсаў не была паспяхова выканана. У выніку сабекошт адной Гкал. цяпла на мясцовых відах паліва на шматлікіх прадпрыемствах краіны аказаўся даражэй чым ад выкарыстання прыроднага газу.

Ужо некалькі год у краіне фактычна правальваецца праграма па энэргазберажэнню ў камунальнай гаспадарцы, на якую выдаткоўваюцца вялікія бюджэтныя сродкі з мэтай распрацоўкі і ўкаранення новых энэргазберагаючых тэхналогіяў.

Пры пастаянным недафінансавані прадрыемстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, рэгулярна адбываюцца выпадкі нямэтавага выкарыстання гэтымі ж прадпрыемствамі сродкаў паступаючых ад насельніцтва па аплаце за капітальны рамонт і сродкаў паступаючых з бюджэту. Нярэдкі на прадпрыемствах і факты злоўжывання службовым становішчам і карупцыі сярод кіраўнікоў і спецыялістаў.

Да гэтай пары Урадам краіны не вырашаецца і нават не разглядаецца вельмі важная праблема ЖКГ – падрыхтоўка кадраў. Як паказвае аналіз, у камунальнай сферы, асабліва ў сельскай мясцовасці і невялікіх гарадах, працуюць спецыялісты, якія прыйшлі сюды з розных галін вытворчасці, з самай рознай прафесійнай падрыхтоўкай. Але гэта не спецыялісты падрыхтаваныя менавіта для працы ў камунальнай сферы. Навучальных установаў для падрыхтоўкі кадраў ЖКГ у краіне яўна недастаткова.

Ва ўмовах захаваўшайся цэнтралізаванай сістэмы ўпраўлення ў Беларусі адсутнічаюць аб’ектыўныя прадпасылкі для развіцця грамадскай ініцыятывы па месцы жыхарства, рэальнага ўдзелу грамадзян ва ўпраўленні.

У краіне практычна не выконваюцца мерапрыемствы па мадэрнізацыі ЖКГ і павышэнню яе інвестыцыйнай прываблівасці, дэманапалізацыі абслугоўвання і рамонта жыллёвага фонду, развіццю канкурэнтнага асяродку.

Усведамляючы нездавальняючую сітуацыю ў сферы ЖКГ краіны, прапануецца ПРАГРАМА РАЗВІЦЦЯ І РЭФАРМАВАННЯ ЖКГ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 2012-2015 ГАДЫ.

1.Кіраўніцтву краіны тэрмінова прыступіць да пераразмеркавання сродкаў накіроўваемых з дзяржаўнага бюджэту. Скараціць на 50-70% фінансаванне сілавых ведамстваў і структур краіны. Ліквідаваць міністэрства ЖКГ, скараціць апараты абласных, гарадскіх, раённых упраўленняў і аддзелаў ЖКГ. Вызваленыя сродкі накіроўваць на мадэрнізацыю і рамонт аб’ектаў ЖКГ.

2.Для арганізацыі эфектыўнай эксплуатацыі аб’ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі Міністэрству ЖКГ да снежня 2012 года распрацаваць праграму падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў.

3. Энэргазберагаючым арганізацыям, Мінскаму гарадскому камітэту, абласным выканаўчым камітэтам, раённым і гарадскім камітэтам у абласцях прыступіць да распрацоўкі рэспубліканскай і мясцовых праграм па энэргазберажэнню. Распрацаваныя праграмы прадаставіць для абмеркавання праз сродкі масавай інфармацыі да 1 снежня 2012 года. Асаблівую ўвагу ўдзяліць прымяненню новых тэхналогій энэргазберажэння, выкарыстання мясцовых відаў паліва з распрацоўкай тэхналогій іх нарыхтоўкі і транспарціроўкі.

Да канца 2013 года завяршыць установку кватэрных лічыльнікаў вады і газу. Забараніць выкарыстанне фінансавых сродкаў на ўстаноўку групавых лічыльнікаў вады, як стратнае і неэфектыўнае мерапрыемства.

Распрацаваць праекты па цеплазабяспячэнню жылых дамоў з магчымасцю пакватэрнага ўліку расходу цяпла. З 2013 года па магчымасці перайсці на ўсталяванне падобных сістэм у новапраектуемых дамах.

Пры распрацоўцы праграм па энэргазберажэнню ўлічваць напрацаваны досвед замежных спецыялістаў. Арганізаваць навучанне спецыялістаў ЖКГ сусветнаму досведу ў пытаннях энэргазберажэння.

4.На ўзроўні заканадаўства Рэспублікі Беларусь з 2012 года забяспечыць магчымасці развіцця канкурэнцыі ва ўпраўленні жыллёвым фондам і прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг для далейшай поўнай прыватызацыі арганізацый і прадпрыемстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Завяршыць дэманапалізацыю абслугоўвання жыллёвага фонду да канца 2013 года.

5.Рэфармаваць сістэму фінансавання капітальнага рамонта жылых дамоў з увядзеннем асобнага ўліку паступіўшых фінансавых сродкаў па кожным доме з залічэннем іх на рахунак з пачатку ўвядзення дадзеных плацяжоў.

6.Выканаўчым камітэтам ў тэрмін да 31.12.2012 года распрацаваць план мерапрыемстваў па прыцягненню інвестыцый, накіраванне бюджэтных сродкаў, прыцягненне сродкаў прадпрыемстваў і насельніцтва ў камунальную гаспадарку з мэтай тэрміновага вырашэння праблемы “хрушчовак”, іншых аварыйных дамоў.

7.Мінскаму гарадскому, абласным упраўленням камунальнай гаспадаркі да 15.08.2012 года арганізаваць абследванне сістэм ацяплення, водазабяспячэння, каналізацыі, ліфтавай гаспадаркі з мэтай атрымання рэальнай сітуацыі па стану дадзеных сістэм. Па выніках

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# СІТУАЦЫЯ Ў ЖКГ БЕЛАРУСІ, ПРАПАНОВЫ ПА РАЗВІЦЦЮ І РЭФАРМАВАННЮ ЖКГ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4-7)*

абследвання распрацаваць планы па іх рамонту і рэканструкцыі на перыяд 2012-2015 гады.

8.Мясцовым выканаўчым камітэтам тэрмінова прыступіць да распрацоўкі праграм для ахопу гарадскіх, сельскіх населеных пунктаў, садовых таварыстваў па планава-рэгулярнай ачыстцы і размяшчэнню камунальных і бытавых адыходаў на палігонах. Да 01.10.2012 года прыняць меры па ліквідацыі несанкцыянаваных сметніц на падведамасных тэрыторыях.

9.Гарадскім выканаўчым камітэтам гарадоў з развітой сістэмай гарадскога электрычнага транспарту тэрмінова прыступіць да распрацоўкі мерапрыемстваў па рэканструкцыі і рамонту электратранспарту.

10.Нацыянальнаму Сходу РБ, Саветам дэпутатаў розных узроўняў, выканаўчым камітэтам стварыць спрыяльныя ўмовы для фармавання і дзейнасці грамадскіх арганізацый і фармаванняў па месцы жыхарства. Забяспечыць магчымасці для цеснага супрацоўніцтва жыллёва-камунальных арганізацый з грамадскімі арганізацыямі і фармаваннямі па месцы жыхарства. Прыцягваць іх да ўдзелу ў конкурсных камісіях на заключэнне дагавароў па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту жыллёфага фонду і кантролю за выкананнем заключаных дагавароў.

11. Ураду Рэспублікі Беларусь прыняць меры па замарожванню тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва. Пры гэтым доля расходаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва не павінны пераўзыходзіць 25% ад сукупнага даходу сярэднястатыстычнай сям’і.

Паніжэнне сабекошту жыллёва-камунальных паслуг дасягаць за кошт рэфармавання і мадэрнізацыі інфраструктур ЖКГ.

12. Саветам дэпутатаў, выканаўчым камітэтам распрацаваць праграмы добраўпарадкавання населеных пунктаў. Асаблівую ўвагу звярнуць на стан сельскіх населеных пунктаў са шматлікімі незаселенымі аварыйнымі дамамі.

13.Ураду РБ да 31.12.2012 года распрацаваць праграму скіраваную на правядзенне навукова-тэхнічнай і эканамічнай палітыкі ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы з прыцягненнем да іх рэалізацыі навуковых, навукова-даследчых і акадэмічных устаноў і арганізацый.

14.Ураду РБ, Саветам дэпутатаў розных узроўняў, выканаўчым камітэтам увесці ў практыку пакварта льнае падвядзенне вынікаў выканання праграм і планаў рэфармавання і развіцця устаноў, арганізацый і аб’ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

# У МАГІЛЁВЕ ШУКАЮЦЬ СЭКСУАЛЬНА ЗАКЛАПОЧАНАГА ХУЛІГАНА




Малады чалавек чатыры разы нападаў на дзяўчат са спробай фізічных дамаганняў.

Як паведамляюць у Магілёўскім абласным УУС, першы напад быў здзейснены ў сакавіку, апошнія — 26 і 27 ліпеня. Хлопец, з выгляду 22-28 гадоў, нападаў на дзяўчат у кабінах ліфта ў пад’ездах дамоў на бульвары Няскораных, калі тыя вярталіся дадому.

Праваахоўнікі кваліфікуюць гэтыя дзеянні як хуліганскія дзеянні са спробай сэксуальных дамаганняў. Дзве з пацярпелых — непаўналетнія.

## Званкі з гарадскіх тэлефонаў даражэюць на 20%

Хвіліна гутаркі будзе каштаваць 18 рублёў.

Даражэюць і іншыя паслугі электрасувязі, у тым ліку абаненцкая плата за стацыянарную тэлефонную сувязь.

Акрамя таго, інфармуе БЕЛТА, падаражэе перасылка паштовак, лістоў і бандэроляў унутры Беларусі. Гэтыя тарыфы будуць павышаныя на 60%. Так, адправіць адрасату паштоўку абыйдзецца ў 800 рублёў, такую ж суму прыйдзецца заплаціць за перасылку ліста масай да 20 г. За кожныя наступныя поўныя ці няпоўныя 20 г масы трэба будзе даплаціць 100 рублёў.

# ВЫМИРАЕМ

Численность населения Могилевской области на 1 июля 2012 г. составила 1 077,6 тыс. человек и по сравнению с началом текущего года сократилась на 2,5 тыс. человек. За январь-июнь 2012 г. в области родилось 5 910 детей, что на 5,7% больше, чем за аналогичный период прошлого года. Умерло 7 810 человек (по сравнению с январем-июнем 2011 г. число умерших уменьшилось на 11%).

Естественная убыль населения составила 1 900 человек.

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 07.08.2012 г. у 21-00.